*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 39 (578) | 9 КАСТРЫЧНІКА 2002 г.

## ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ І СУВЕРЭНІТЭЦЕ БЕЛАРУСІ

**Прынята Малой Радай МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" 26.09.2002г..**

МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" заўсёды стаяла на грунце падтрымкі суверэнітэту і незалежнасці Беларусі. У сувязі з тым, што рэальная пагроза іх страты зноў нарастае, лічым сваім абавязкам заявіць наступнае.

У трэцяе тысячагоддзе Беларусь увайшла як суверэнная дзяржава. Пасля некалькіх стагоддзяў залежнага існавання ў складзе іншых дзяржаў, намаганнямі і барацьбой некалькіх пакаленняў адраджэнцаў, праз ахвяры страты і паразы Беларусь здабыла сваю незалежнасць, атрымала сваю дзяржаўнасць.

Выпрабаванні, аднак, не скончыліся. Глыбокую трывогу выклікае стан беларускай мовы, культуры і гістарычнай спадчыны. Ідуць працэсы разбурэння сістэмы нацыянальнай культуры, адукацыі, навукі, нацыянальных сродкаў масавай інфармацыі. Сістэма беларускага кнігадрукавання пазбаўлена належнай дзяржаўнай падтрымкі.

Кан'юнктурная палітыка кіраўнічых колаў на "единение" з Расіяй, стварэнне беларуска-расійскага "союзного государства" пры адначасовай самаізаляцыі ад заходніх краін, паставіла Беларусь перад дзвюма рэальнымі пагрозамі: ці інкарпарацыі ў склад Расіі, ці ператварэння краіны ў замкнёную дзяржаву, ізаляваную ад ўсяго свету, не толькі ад Захаду, але і ад Усходу.

Але ёсць яшчэ адзін шлях.

Шлях захавання і ўмацавання Беларусі ў якасці нацыянальнай дэмакратычнай дзяржавы нсад'емным пастулатам існавання якой з'яўляецца ідэя беларускага адраджэння - мовы, культуры, нацыянальнай самасвядомасці.

Гэтым шляхам пайшлі, ідуць дзесяткі краін Еўропы і свету, што дасягнулі высокага ўзроўню развіцця і дабрабыту насельніцтва.

Гэты шлях не адмаўляе добрасуседскіх, на ўзаемную карысць, адносін з Расіяй, але як дзвюх самастойных дзяржаў.

**МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" заяўляе** аб сваёй салідарнай пазіцыі з усімі дэмакратычнымі сіламі краіны, ідэалам і мэтай дзейнасці якіх з'яўляецца незалежнасць і суверэнітэт, дэмакратыя і свабода для Беларусі.

**ЗБС "Бацькаўшчына" заклікае** беларускую дыяспару за мяжой і надалей прыкладаць усе магчымыя намаганні дзеля тлумачэння гэтага ідэалу народам і ўладам краін іх пражывання.

**ЗБС "Бацькаўшчына" звяртаецца** з асобным заклікам да беларускай дыяспары ў Расіі выкарыстоўваць свае магчымасці для тлумачэння расіянам выгод існавання Беларусі ў якасці незалежнай і дэмакратычнай дзяржавы для самой Расіі, як маста паміж Уходам і Захадам. Намер ператварэння Беларусі ў частку Расійскай Федэрацыі пасварыць нашыя народы, дэстабілізуе палітычную сітуацыю ў Еўропе.

## "Дзеяслоў" -- дзейнасць словам, дзейнасць не на словах

Пад час XIV з'езду Саюза пісьменнікаў прайшла прэзентацыя першага нумара новага літаратурнага часопіса "Дзеяслоў".

Паводле выходных звестак трэба разумець, што часопіс не зарэгістраваны ў Рэспубліцы Беларусь, але выдадзены выдавецтвам, якое мае ліцэнзію, надрукаваны часопіс у Літве. Магчыма, гэта не зусім так. З усімі тонкасцямі беларускіх законаў не зможа разабрацца, мабыць, не адзін юрыст. Але часопіс выйшаў і, хочацца спадзявацца, будзе выходзіць.

У часопіса грунтоўны змест: версэты Алеся Разанава, паэма "Паланэз" Уладзіміра Някляева, танка і гекзаметры Ніла Гілевіча "Па чужых узорах", вершы з кнігі "Крэйдавае кола" Яна Чыквіна, верш "Скрыпач Антоні" ЛеанідаДранько-Майсюка, вершы Міхася Скоблы "Закаханы ў неба свабоднае край", вершы Алеся Пісьмянкова "Паэт і рыбніца" і Юліі Гайдукевіч "Маладая", два апаведы з кнігі Святланы Алексіевіч "Чароўны алень вечных ловаў", лірычныя запісы Янкі Брыля "Вясна" і шмат іншага.

Галоўны рэдактар - Барыс Пятровіч (Сачанка), намеснікі Эдуард Акулін і Алесь Пашкевіч - сённяшні старшыня Саюза пісьменнікаў.

Часопіс зроблены на еўрапейскім узроўні (ацэнка Ніла Гілевіча), мае 256 старонак фармату А-4. Часопіс выйшаў без падтрымкі дзяржавы і ў гэтым асноўны яго сэнс, яшчэ большы сэнс ён займее, калі захавае рэгулярнасць выхаду. Па сутнасці




-- гэта адказ беларускага грамадства на захоп дзяржавай літаратурных выданняў Беларусі. Назва часопіса сама нясе гэты сэнс. "Дзеяслоў" -- гэта рэальны практычны пераход ад словаў да справы. Гэта сітуацыя, калі слова ёсць справа, ёсць дзейнасць.

*Яраслаў Грынкевіч.*

## Наперадзе месячнік "Спяваем па-беларуску"

Мінуў месячнік "Размаўляем па-беларуску". У сувязі з гэтым Сакратарыят ТБМ канстатуе, што па выніках апытання больш за 30% грамадзянаў Беларусі падтрымалі ініцыятыву ТБМ. Яшчэ 15% нашых прыхільнікаў не размаўляюць на роднай мове толькі таму, што саромеюцца.

ТБМ удзячнае дзяржаўным і недзяржаўным СМІ, беларускім дабрадзеям за інфармацыйную і фінансавую падтрымку акцыі і заклікае ператварыць месячнік у штомесячнік.

Так, мы прапануем у кастрычніку правесці месячнік "Спяваем па-беларуску".

Набывайце беларускую музыку!

Шаноўная беларуская грамада! Слухайце беларускае! Звяртайцеся на радыё і тэлебачанне з прапановамі часцей перадаваць песні на роднай мове. Прапануйце газетам тэксты беларускіх песень разам з нотамі. Зробім беларускую песню папулярнай і вядомай!

Пакуль народ спявае на роднай матчынай мове, Беларусь будзе жыць.

Сакратарыят ТБМ.

3.10.2002.

## Знайшлася мемарыяльная дошка Максіму Гарэцкаму

19 верасня 2002 г. у сквер насупраць будынка былога Інбелкульта (вул. Рэвалюцыйная 15), дзе зараз месціца МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны, была падкінута мемарыяльная дошка Максіму Гарэцкаму (скульптар Мікола Бакуменка). Нагадваем, што дошка была ўстаноўлена ў 1993 г. з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры і была скрадзена з фасаду гэтага будынка напярэдадні Трэцяга з'езду беларусаў свету ў чэрвені 2001 г. паколькі гэты твор быў зроблены з цэлюміна, то каштоўнасці для ахвотнікаў на каштоўныя металы не складаў. Па факту знікнення дошкі была ўзбуджана крымінальная справа.

Калі МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" ўпэўнілася, што пашук дошкі будзе безвыніковы, аб'яднанне звярнулася ў Менгарвыканкам з просьбай аб узнаўленні мемарыяльнай дошкі. Менгарвыканкам даў станоўчы адказ і зараз скульптар Алесь Шатэрнік ушчыльную займаецца гэтай працай.

І вось, больш чым праз год, мемарыяльную дошку класіку беларускай літаратуры знайшлі ў скверыку, пад дрэвамі. Насупраць сядзібы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Знайшоў яе мастак Леанід Данэлія падчас выгулу свайго сабакі. Са слоў мастака, ён выключае варыянт, што дошка праляжала на гэтым месцы больш за год, таму што кожны дзень выгульвае ў гэтым мясцы свайго сабаку, але гэтую знаходку заўважыў упершыню. Па знешняму выгляду знойдзенай дошкі можна зрабіць выснову, што яна вельмі працяглы час знаходзілася ў зямлі. Але на пытанне, хто яе адкапаў і падкінуў у сквер, адказ хутчэй за ўсё не знойдзецца. Зараз дошка знаходзіцца ў офісе МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

*Прэс-цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".*

## Віншаванне

Сакратарыят ТБМ віншуе з Днём народзінаў сяброў ТБМ, якія прыйшлі на свет у кастрычніку:

Алену Бобрык
Міхася Булавацкага
Віктара Бялецкага
Анатоля Дзмітрыенку
Васіля Брамаловіча
Дзіяну Кавалевіч
Уладзіміра Каратая
Вячаслава Малько
Уладзіміра Міцкевіча
Іосіфа Навумчыка
Валерыя Палсцюка
Івана Спосабава
Алеся Стральцова
Віталя Сухарэвіча
Кастуся Тарасава
Аляксандра Угрына
Ларысу Долбік

## АБВЕСТКА

**Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа абвяшчае набор вучняў 7 класа на падрыхтоўчыя курсы. Заняткі праводзяцца па беларускай мове, літаратуры, гісторыі Беларусі, замежных мовах (два разы на тыдзень з 16.30) Пачатак заняткаў у кастрычніку па меры камплектавання груп. Тэлефоны для даведак: 2273277, 2261073. Наш адрас: 220050, г. Менск, вул. Кірава, 21.**

## Не – рэпрэсіўным законам!

**Падтрымліваю зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў аб адмене артыкулаў Крымінальнага кодэкса "Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 367), "Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 368) і "Абраза прадстаўніка ўлады" (арт. 369)**

*Прозвішча, імя, імя па бацьку*____________________
*Год нараджэння*____________________
*Адрас*____________________
*Асабісты подпіс*____________________

***Заўвага:*** *Ваш подпіс можа стаць падставай для заканадаўчай ініцыятывы з мэтай адмены вышэйзгаданых артыкулаў. Запоўнены купон просім накіроўваць у рэдакцыю газеты.*

*Да 120-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа*

# МАГУТНЫ ПРЫРОДНЫ ТАЛЕНТ

Народны паэт Беларусі Якуб Колас у сваім творчым развіцці прайшоў слаўны і пачэсны шлях. Яго творчасць – гэта выдатная старонка ў гісторыі беларускай літаратуры. Творчасць Коласа ілюструе не толькі цэлую эпоху ў культурным жыцці краіны, велізарны пласт нацыянальнага жыцця, а і падымаецца да мастацкага ўсведамлення агульначалавечых глабальных праблем.

Паэт, як ніхто іншы, здолеў пранікнуць у тайнікі народнай душы, угледзець і перадаць прыгажосць роднага краю. Крыніцай Коласавага таленту сталі глыбіныя праявы жыцця беларусаў, наша спрадвечная багатая нацыянальная культура, крупінкі мудрасці чэрпаў ён у багацейшым на славянскіх прасторах беларускім фальклёры.



Якуб Колас. 1913 г.

Магутны прыродны талент, велізарная працавітасць і нястомная прага літаратурнага самаўдасканалення зрабілі Коласа волатам мастацкага слова, вывелі ў першыя шэрагі выдатных дзеячаў славянскай культуры.

Шлях сапраўднага мастака заўсёды няпросты, і лёс творчага сталення Якуба Коласа яркі таму прыклад.

Нараджэнне будучага паэта выпала на канец XIX стагоддзя – сацыяльна неадаптаваны час, калі чалавеку з ніжэйшых саслоўных кагортаў шлях у вялікую навуку ці мастацтва быў практычна зачынены. Аднак, насуперак неспрыяльным сацыяльна-палітычным умовам, талент юнака з наднямонскай леснічоўкі не загінуў.

Колас увайшоў у літаратуру як пісьменнік, які ў сваіх творах увасабляў прывабную для народа, дэмакратычную па сваёй сутнасці ідэю волі. Абраўшы для сябе місіянскую ролю Песняра, паэт панёс людзям "агонь душы і сэрца жар" – шчодры дар свайго таленту.

Коласа па праву лічаць заснавальнікам нацыянальнай прозы, аднак і паэтычныя яго творы – паэмы "Новая зямля", "Сымон-музыка" – па праву належаць да лепшых узораў беларускай паэзіі.

Эпічная паэма "Новая Зямля" стала філасофскім асэнсаваннем цэлай эпохі ў жыцці беларускага народа, пазначанай пакутлівым пошукам шляху нацыянальнага самаўсведамлення. Колас выразна вызначае асноўную ідэю свайго твора як ідэю агульнанацыянальную: быць гаспадаром можна толькі на ўласнай зямлі.

Эстэтызуючы сялянскі побыт, працу на зямлі, багацце ўнутранага свету народа-працаўніка, паэт сваім пафасным словам прымушаў задумацца сваіх сучаснікаў над адвечнымі маральна-этычнымі праблемамі чалевецтва.

Драматычны, і часта трагічны, лёс таленту вымушанага гадавацца ва ўмовах сацыяльна-класавай барацьбы, стаў тэмаю велічнай сімвалічнай ліра-эпічнай паэмы Якуба Коласа " Счмон-музыка". Па вялікім рахунку - гэта твор аб духоўным адраджэнні нацыі, аб асаблівасці нацыянальнага шляху Беларусі, якая воляю лёсу апынулася на перакрыжаванні розных культур, рэлігійных кафесій, геапалітычных імкненняў.

Стрываўшы шквал вульгарызатарскай крытыкі, шэдэўры Коласавай спадчыны па-ранейшаму ўспрымаюцца беларусамі як творы сапраўды народныя і велічна гуманістычныя.

Якуб Колас ніколі не быў толькі чыстым мастаком – актыўную творчую працу паэт спалучаў з падзвіжніцкай асветніцкай дзейнасцю і плённай навуковай працай. З моманту заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі ў 1902 годзе і да апошніх дзён свайго жыцця Колас нёс пачэснае званне настаўніка.

І сёння Беларусь шануе свайго таленавітага сына не толькі за тое, што ён стаў духоўным яе празорцам, але і за ўклад паэта-грамадзяніна ў развіццё і станаўленне нацыянальнай педагагічнай канцэпцыі. Якуб Колас быў першым аўтарам метадычных распрацовак па выкладанні роднай мовы і літаратуры ў навучальных установах краіны. Яго "Другое чытанне для дзяцей беларусаў" – адзін з першых поўнавартасных падручнікаў па роднай літаратуры для маленькіх дзяцей. Каштоўнасць гэтага выдання для педагагічнай галіны Беларусі велічная. бо ў складанай грамадска-палітычнай сітуацыі на мяжы XIX і XX ст. кнігі падобнага кшталту былі адзінай даступнай для дзяцей крыніцай пазнання роднага краю.

На працягу 35 гадоў (1921-1956) Колас стаяў ля вытокаў і на чале беларускай навукі. Пачынаў працу ў Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы поруч з найвыдатнейшымі дзеячамі беларускай навукі і культуры.

Як вучоны-лінгвіст Колас займаўся распрацоўкай навуковай тэрміналогіі для розных галін навукі, культуры, літаратуры. І па сённяшні дзень у большасці сваёй дзейнасці набыткамі слоўнікавага складу, распрацаванага Навукова-тэрміналагічнай камісіяй у пачатку 20-х гг.

Шмат сіл аддаў Якуб Колас і працы ў Літаратурнай камісіі Інстытута беларускай культуры. Як чалавек прагрэсіўных поглядаў, ён староўча ацэньваў і пастаноўку цэлага шэрагу "нелітаратурных" эксперыментаў: геалагічных, геабатанічных, заалагічных.

На думку Я. Коласа, Інбелкульт падрыхтаваў грунтоўную глебу для заснавання Акадэміі навук Беларусі. І на працягу 28 гадоў Колас быў нязменным віцэ-прэзідэнтам яе гуманітарнага сектара. Яго галоўная думка аб развіцці навукі ў Беларусі надзвычай актуальная і сёння: навука не павінна адрываецца ад жыцця, ад надзённых патрэб будаўніцтва рэспублікі, яна павінна накіроўвацца на вывучэнне прыроды, тэхнікі, народнай гаспадаркі, культуры.

Асветніцкая і навуковая праца цесна стасаваліся ў Коласа з грамадска-палітычнай дзейнасцю.

Колас застаўся ў гісторыі Беларусі і як мудры, спрактыкаваны палітык, гуманіст-міратворца высокага кшталту, чыя дзейнасць мела водгук на міжнароднай арэне.

У пераліку грамадскіх пасад паэта – член ЦК Кампартыі Беларусі, дэпутат Вярхоўнага Савету СССР і Вярхоўнага Савету БССР некалькіх склікання, старшыня Рэспубліканскага камітэту прыхільнікаў міру і Ўсеславянскага камітэту абароны міру і Ўсеславянскага камітэту, сябар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР і БССР.

Народны паэт Беларусі, заслужаны чдзеяч навукі БССР, двойчы лаўрэат Дзяржаўных прэмій – так за шматгадовую творчую і навуковую дзейнасць краіна ацаніла Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча, любімага народам Коласа.

А тое, што творы Коласа не трацяць сваёй папулярнасці і запатрабаваны чытачом сведчыць статыстыка айчыннага друку. Пачынаючы з савецкіх часоў і заканчваючы сённяшнім днём, у рэспубліцы зарэгістравана выданне 233 назваў твораў агульным накладам 6,0 млн. экзямпляраў, у тым ліку на беларускай мове - 202 назвы накладм 3,9 млн. экз., толькі за апошнія 5 гадоў выпуск творчай спадчыны паэта на роднай мове быў прадстаўлены мастацкімі творамі, якія выдаваліся 14 разоў агульным накладм 189,7 тыс. экз.

Вершы, паэмы, празаічныя творы Якуба Коласа перакладзены на 41 мову свету. Яны данеслі каларыт беларускай ментальнасці, архетыпы нацыянальных вобразаў да англійска- і французскамоўных жыхароў Зямлі, немцаў, іспанцаў, італьянцаў, сербаў, чэхаў, жыхароў Усходу; яшчэ ў 1950-я гады Колас загучаў на мовах народаў СССР.

Палову XX стагоддзя нястомна працаваў Колас на славу Беларусі, дзеля яе народа. Пасля смерці Песняра засталіся яго ідэі, вобразы, яго светлае імя. Сёння імем Коласа названы паліграфкамбінат, Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр у Віцебску інстытут мовазнаўства НАН РБ, сем бібліятэк, шэсць калгасаў краіны, дванаццаць сярэдніх школ, цеплаход Дунайскага параходства, прыпынчны пункт Баранавіцкага аддзялення чыгункі, плошчы і вуліцы ў 63 населеных пунктах усіх абласцей нашай краіны.

**Пайшоў Пясняр,**
**А песня засталася.**
**Памёр Паэт,**
**А песня будзе жыць!**

*С. Грахоўскі,*
*Г. Зайцава,*
*музей Якуба Коласа.*

# Доўгачаканае выданне

Як ведаюць нашы чытачы, напрыканцы мінулага стагоддзя ў Гарадзенскім дзяржуніверсітэце выйшлі дзве кнігі прафесара Паўла Сцяцко, прысвечаныя нармаванню савецкага варыянту беларускай мовы: "Праблемы нормы, культуры мовы" (Гродна: ГрГУ, 1998. – 294 с.) і "Праблемы лексічнага нармавання беларускай мовы" (Гродна, ГрГУ, 1999. – 292 с.). Кнігі прыхільна сустрэла беларуская нацыянальная інтэлігенцыя – пісьменнікі, навукоўцы, настаўнікі і выкладчыкі ВНУ, супрацоўнікі рэдакцыяў і выдавецтваў. У рэспубліканскім перыядычным друку з'явіліся ўхвальныя водкукі (Я. Зэльвіч. Чысцец для мовы (ЛіМ. 10. 04.1998); І. Германовіч. Дзеля нашага нацыянальна-культурнага адраджэння, захаван-ня нас як нацыі (Наша слова. 6.05. і 13.05.1998); М. Даніловіч. З руплівасцю і пашанай да роднага слова (Роднае слова. 1998. № 3); А. Каўрус. Служэнне роднаму слову (Полымя. 1999. № 1); І. Германовіч. Працяг размовы: Дзеля нашага нацыянальнага адраджэння, захаван-ня нас як нацыі (Наша слова. 15.08.1999)).




Высокую ацэнку атрымалі згаданыя кнігі і ў публікацыях з нагоды юбілею аўтара (М. Шавыркін. Карыфей айчыннага мовазнаўства. Звязда. 4.03.2000; М. Скобла. Рыцар выльможнага слова. ЛіМ. 3.03.2000 ды іншыя). Выдавецкі аддзел універсітэта і аўтар атрымалі шмат замоваў на кнігі. Аднак задаволіць іх не было магчымасці; наклад іх мізэрны: па 200 асобнікаў. Дадатковае выданне, якое б задаволіла попыт чытачоў, ажыццявіць выдавецкаму аддзелу не ўдалося.

І вось сёлета ў канцы жніўня з'явілася выданне, якое сумяшчае змест ранейшых кніжак у адной, пад назвай **"Культура мовы"** (Мінск: Тэхналогія. 2002. - 444с.). Наклад кнігі – 2 тысячы асобнікаў. Кніга мае надта прыгожы выгляд, зроблены на еўрапейскі ўзор.

У анатацыі чытаем: *"...Аўтар дзеліцца сваімі развагамі пра шляхі ўдасканалення беларускага правапісу, аналізуе тыповыя парушэнні сістэмы нашай мовы ў галіне марфалогіі і сінтаксісу, на шматлікіх канкрэтных прыкладах разглядае праблемы яе лексічнага нармавання.*

*Будзе карыснаю журналістам, выдаўцам, настаўнікам, студэнтам, усім, хто цікавіцца пытаннямі культуры сучаснай беларускай мовы."*

Мовазнаўчы тэрмін **"культура мовы"** выкарыстоўваецца тут з значэннем моўнай нармалізацыі - ачышчэння савецкага варыянту беларускай літаратурнай мовы ад беззадстаўных пазычанняў і калькаванняў (асабліва з былога ўсесаюзнага стандарту – расійскай мовы), ад штучных структураў, неўласцівых беларускай мове.

Народны паэт Беларусі, акадэмік Максім Танк у 1993 годзе, падчас адраджэння нашай культуры і мовы ў сувярэннай краіне, запісаў: *"Зараз наша мова, якая доўгі час была і ў загоне і ў прыгоне, патрабуе грунтоўнай рэстаўрацыі і ачышчэння ад розных непатрэбных запазычанасцяў"* (Полымя. 1997. № 12. С. 69).

У новым, дапрацаваным выданні падаюцца і дадатковыя (паводле ранейшых кнігаў) прыклады выкарыстання нармаваных адзінак у нацыянальным друку. Лексікалагічныя артыкулы размешчаны ў кнізе без уліку іх алфавітнай паслядоўнасці. Пры канцы кнігі змешчаны паказальнік прааналізаваных моўных адзінак.

У артыкулах звычайна на першым месцы стаіць тое слова, якому аддаецца перавага. Калі другі кампанент вызначаецца, як неадпаведны моўнай сістэме, то дублеты спалучаюцца словамі ***"а не"*** ("Мовазнаўчы – ***а не*** моваведскі"); калі яны разглядаюцца, як магчымыя сінонімы, то аб'ядноўваюцца злучнікам ***"і"*** або працяжнікам ("Мапа і карта", "Спадзеў – надзея").

Матэрыялам для аналізу ў кнізе паслужыла багатая картатэка аўтара (да 100 тысяч моўных адзінак), складзеная з прыкладаў з нацыянальнага перыядычнага друку, манаграфічных даследаванняў, слоўнікаў ды іншых крыніцаў.

Адрэцэнзавалі кнігу знакамітыя навукоўцы: Любоў Антанюк, доктар філалагічных навук, прафесар і Аляксандра Станкевіч, доктар філалагічных навук, прафесар.

*Яраслаў Грынкевіч*

